**Віталь Галубовіч**
**Андрэй Вашкевіч**
(Гродна)

## Інвентар мястэчка Сапоцкін 1704 года

У 1924 г. уладальнік маёнтка Свяцк у Аўгустоўскім павеце (цяпер Свяцк знаходзіцца ў Гродзенскім раёне) Юзаф Гурскі зрабіў Гродзенскаму музею выключна каштоўныя падарункі. Ён перадаў стваральніку і захавальніку музея Юзафу Ядкоўскаму каменную сякерку, дваццаць пяць старажытных медалёў (з іх два залатых) і досыць вялікі архіў уладальнікаў добраў Сапоцкін — Радзівілкі — Тэалін — Свяцк. Архіў складаўся больш чым з двухсот дакументаў, якія мелі дачыненне да шляхецкіх родаў Валовічаў, Чыжоў, Гасеўскіх[1]. Справа ў тым, што Гурскія валодалі Свяцкам толькі на працягу трох пакаленняў, дзед Юзафа Гурскага, таксама Юзаф, у пачатку XIX ст. ажаніўся з апошняй уладальніцай Свяцка з роду Гасеўскіх, Каралінай, якая, аднак, памерла, не пакінуўшы нашчадкаў для Юзафа Гурскага (ягоныя спадкаемцы паходзілі ад другога шлюбу)[2]. Гасеўскім жа Свяцк перайшоў у рукі ад магутнага шляхецкага роду Валовічаў. Так у руках нашчадкаў не асабліва вядомага судовага выканаўцы з Ломжы Юзафа Гурскага аказаліся не толькі самыя вялікія зямельныя ўладанні на тэрыторыі ўсёй Сувалкаўскай губерні і цудоўны палац, пабудаваны напрыканцы XVIII ст., але таксама архівы папярэдніх уладальнікаў Свяцка і навакольных абшараў.

Сярод іншых цікавых дакументаў XVI-XIX стст. у архіве захаваўся Інвентар мястэчка Сапоцкін, складзены ў 1704 годзе. Гэта адзін з найбольш цікавых дакументаў, які дае нам магчымасць уявіць як выглядала мястэчка ў самым пачатку XVIII ст. (каментар да інвентара і сам дакумент змешчаны ў дадатку).

Датай заснавання мястэчка прынята лічыць 10 ліпеня 1519 г., калі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт даў баярыну Сапоцьку Стэцковічу (Сопотку Стецковичу) прывілей на валоданне зямлёй Раманаўшчына ў Гродзенскім павеце[3]. Аднак ніякіх прамых доказаў таго факта, што дадзеная згадка тычыцца менавіта месца ўзнікнення Сапоцкіна, не існуе. Больш дакладную інфармацыю знаходзім у адным з актаў гродзенскага земскага суда за 1634 г. У гэтым дакуменце змешчана вытрымка з апісання зямель сялян-падданых Гродзенскага Бары-

[1] *Muzeum w Grodnie. Rocznik II za rok 1924*, Grodno 1925, s. 27-28.
[2] О. Трибух, *Да святится имя «Святск»*, „Гродзенская праўда”, 2006, 16 снежня, с. 6.
[3] *Lietuvos Metrika. № 11*, Vilnius 1997, s. 79.

саглебскага манастыра, якое было складзена каралеўскімі межавымі камісарамі Себасцьянам Дыбоўскім і Лаўрынам Войнам. Паміж іншымі запісамі ў гэтым дакуменце знаходзім згадку аб дарозе „з Городна до местечка Сопоткин"[4]. С. Дыбоўскі і Л. Война займаліся арганізацыяй валочнай памеры ў Гарадзенскай каралеўскай эканоміі ў пачатку 1560-х гг., таму можна смела меркаваць, што дадзены дакумент з першай згадкай пра Сапоцкін таксама адносіцца менавіта да гэтага часу (некаторыя даследчыкі датуюць яго больш дакладна: паводле Станіслава Александровіча гэтая згадка адносіца да 1552 г., паводле Міхаіла Спірыдонава да 1560 г.)[5]. Так ці іначай, але менавіта гэтую згадку, датаваную прыкладна 1550-1560 гг., мы сёння можам лічыць найбольш старым запісам пра мястэчка ў пісьмовых крыніцах, хаця, безумоўна, мястэчка ўзнікла раней.

Каля 1612 г. у Сапоцкіне была ўтворана ўніяцкая парафія. Сапоцкінская царква вельмі доўгі час была драўлянай. У 1725 г. на месцы старой была ўзведзена новая, таксама драўляная, царква. Апошняя праіснавала да канца 1830-х гг., калі была пабудавана новая мураваная царква[6]. Сапоцкінская Успенская царква да 1875 г. была ўніяцкай, пасля стала праваслаўнай. Ужо ў пачатку XX ст. будынак царквы па прызначэнню не выкарыстоўваўся, нейкі час у ім размяшчаўся склад канторы па нарыхтоўцы тытуню. Каля 1970 г. царква была разбурана, зараз на яе месцы сапоцкінскі дзіцячы садок.

Пасля спусташальнай вайны 1654-1667 гг. гаспадарскае (каралеўскае) мястэчка Сапоцкін рашэннем Сойму было перададзена шляхце страчанага Рэччу Паспалітай Смаленскага ваяводства. Большую частку мястэчка атрымаў Казімір Мінтаўт Чыж (частка мястэчка належала Юрыю Язерскаму, а пасля панам Александровічам). Менавіта яму сапоцкінцы павінны былі сплачваць чынш, падарожчыну, гандлёвую і шынковую арэнду. У 1703 г. праз Сапоцкін прайшла армія шведскага караля Карла XII, аднак на гаспадарчым становішчы мястэчка гэта адбілася не надта моцна. У 1706 г. сын Казіміра, Юзаф Мінтаўт Чыж, за дваццаць тры тысячы злотых (бітымі талерамі) прадаў мястэчка пісару ВКЛ,

[4] *Акты Виленской Археографической Комиссии*, т. I, Вильно 1865, с. 78.

[5] S. Alexandrowicz, *Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w.*, „Acta Baltico-Slavica", 1970, nr 7, s. 75; М. Спірыдонаў, *Беларусь на карце ВКЛ 1613 года*, [у:] *„З глыбі вякоў. Наш край"*, Мінск 1997, с. 168.

[6] *Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej 1804 roku*, opr. P. Borowik i G. Ryżewski, Białystok 2009, s. 54. Даследчык Роберт Сарноўскі паведамляе, што мураваная ўніяцкая царква ў Сапоцкіне была пабудавана каля 1780 г. па фундацыі Яна Гасеўскага, аднак у святле вышэйпададзеных фактаў ягоныя звесткі выглядаюць памылковымі. Гл.: R. Sarnowski, *Parafia Teolin w Sopoćkiniach koło Grodna*, Warszawa 2001, s. 21.

кантару віленскага пралата Багуславу Корвін-Гасеўскаму, прадстаўніку знакамітай шляхецкай дынастыі ВКЛ[7]. Багуслаў Корвін-Гасеўскі, які з 1724 г. займаў пасаду смаленскага біскупа, валодаў Сапоцкінам аж да сваёй смерці ў 1744 г. Мястэчка ён здаваў у арэнду ордэну камальдулаў, рэзідэнцыя якіх знаходзілася ў недалёкім гарадку Вігры. Камальдулы ў 1720-х гадах штогод сплачвалі Гасеўскаму за мястэчка каля 2000 тынфаў, збіраючы з мяшчан, натуральна, большую суму. Неблагі прыбытак атрымоўваў біскуп перадаючы некаторым сапоцкінскім яўрэям і хрысціянам выключнае права на выраб і продаж гарэлкі і піва ў мястэчку[8]. У 1750-х — пачатку 1780-х гг. мястэчка належала Юзафу Корвін-Гасеўскаму (магчыма, пляменніку Багуслава Гасеўскага), а пасля смерці яго спадчына перайшла двум сынам Францішку і Базылю. Сапоцкін застаўся за першым сынам. У 1786 г. Францішак Корвін-Гасеўскі прадаў мястэчка за 120 тысяч злотых Станіславу Яленьскаму. Сам Францішак памёр у 1798 г., ужо калі Сапоцкін быў у складзе Прусіі, і быў пахаваны у фамільным склепе Гасеўскіх непадалёку ад уніяцкай царквы ў мястэчку. Яго адзінаму сыну Аляксандру дасталіся вёскі Польнае, Пясчаны і Радзівілкі[9].

Гасеўскія нярэдка канфліктавалі з прадстаўнікамі роду Валовічаў, уладароў Свяцка-Валовічаў (зараз вёска Свяцк). Менавіта канкурэнцыяй, напэўна, трэба тлумачыць закладанне Валовічамі мястэчка Тэалін. Вясной 1789 г. (6 сакавіка) Антоні і Тэафілія Валовічы ўфундавалі у Тэаліне рымска-каталіцкі касцёл. Дэкрэт аб утварэнні новай парафіі быў выдадзены 27 красавіка 1789 г. віленскім біскупам Ігнацы Масальскім. Новая парафія ствралася з заходняй часткі Гожскай парафіі. Гэта былі старадаўнія валоданні Гарадзенскай эканоміі, вігерскіх камальдулаў і часткі Гожскага староства. Спачатку парафія належала да Віленскай дыяцэзіі, а пасля 1795 г. увайшла ў склад Вігерскай дыяцэзіі. Тэалін хутка стаў прадмесцем Сапоцкіна, таму парафія месціцца практычна ў самім мястэчку. Да 1865 г. патронам касцёла быў род Валовічаў, які дапамагаў парафіі грашыма і за свой кошт утрымліваў пробашча. У 1865 г. расійскі ўрад ліквідаваў на землях Каралеўства Польскага калятарскія (патронскія) прывілеі шляхты над касцёламі. Падчас паўстання 1863 г. Габрыэль Дзяконскі, які быў з 1844 г. пробашчам у Тэаліне, быў абвінавачаны ў антыўрадавай дзейнасці і паўтара года правёў у турме ў Сувалках. У 1877 г. парафія была зачынена. З 1877 па 1885 гг. касцёл быў філіяй касцёла ў Селіванаўцах, пасля ў яго будын-

[7] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (далей: ГДГАМ), адзінка захоўвання КП-15122/44.

[8] ГДГАМ, адз. зах. КП-15113/9, КП-8794.

[9] ГДГАМ, адз. зах. КП-15122, КП-15115.

ках месціўся Тэалінскі Праабражэнскі жаночы праваслаўны манастыр. Каталіцкая парафія была адноўленая толькі пасля 1905 г.[10]

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Сапоцкін трапіў у склад тэрыторый, якія пад назвай Новай Усходняй Прусіі былі акупаваныя Прускім Каралеўствам. У 1807 г. Сапоцкін увайшоў у склад Герцагства Варшаўскага, якое было ўтворана Напалеонам пасля перамогі французскіх войскаў над Прусіяй. Пасля 1815 г. Сапоцкін стаў часткай Аўгустоўскага павета, які ўваходзіў спачатку ў Аўгустоўскую, а пасля ў Сувалкаўскую губерні Царства Польскага.

На працягу XIX ст. насельніцтва мястэчка хутка павялічвалася. У 1827 г. у ім было ўсяго 98 дамоў і 733 жыхары, ужо ў 1858 г. — 160 дамоў (з іх 3 мураваных) і 1568 жыхароў, у 1890 г. — 173 дамы і 2457 жыхароў. Прамысловасць мястэчка складалі шкляная гута, тартак і вадзяны млын[11]. Ужо ў пачатку XX ст. уладальнік маёнтка Радзівілкі Пётр Гурскі заснаваў крухмальны завод, які праіснаваў да канца XX ст.

Падзеі Першай сусветнай вайны адмоўна адбіліся на гаспадарчым становішчы мястэчка. Насельніцтва Сапоцкіна значна паменшылася. Перапіс 1921 г. пакінуў звесткі аб тым, што ў Сапоцкіне было 294 дамы і жыло 1774 чалавекі (з іх 888 яўрэяў)[12]. Аднак, нягледзячы на пасляваенныя складанасці, ужо ў 1920-х гг. мястэчка працягвала інтэнсіўна развівацца. У той час у Сапоцкіне было шэсць вуліц: Гродзенская, Сінагагальная, Васілевічская, Баляслава Смелага (раней Асочніцкая), Тэалінская, 3-га Мая (раней Іерусалімская), а таксама Рынак, на якім кожную пятніцу адбываўся кірмаш.

Цікавую старонку гісторыі Сапоцкіна складае мінулае яго яўрэйскай абшчыны. Яўрэйскае насельніцтва з'явілася ў Сапоцкіне прыкладна ў XVII ст., аднак асабліва імклівa яўрэйская абшчына мястэчка павялічвалася на працягу XIX ст. Калі ў 1822 г. у Сапоцкіне жылі 422 яўрэі, то ў 1864 г. іх колькасць складала каля 1500 чалавек (мяркуема, разам з вёскай Галынка, дзе да Другой сусветнай вайны таксама жыло даволі шмат яўрэйскіх сем'яў і існавала сінагога).

Ужо ў пачатку XX ст. у Сапоцкіне існавала некалькі яўрэйскіх навучальных устаноў пры сінагозе, пабудаванай у XVI-XVII стст., аказвалася дапамога беднаму яўрэйскаму насельніцтву. Яўрэі былі таксама

[10] А. Вашкевіч, Дз. Нарэль, *Паміж Ласоснай і Чорнай Ганчай. Гісторыя каталіцкіх парафіяў у паўднёва-ўсходняй частцы Аўгустоўскай пушчы*, Мінск 2006, с. 90-91.

[11] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XI, Warszawa 1890, s. 76.

[12] *Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej, opracowany na podstawie wyniku pierwszego powszechnego spisu ludności z dn. 30 września 1921 r. i innych źródeł urzędowych*, t. V: *Województwo Białostockie*, Warszawa 1924, s. 7.

заснавальнікамі некалькіх прадпрыемстваў у мястэчку, напрыклад, шкляной гуты. Пачынаючы з 1898 г. у Сапоцкіне жыў і працаваў рабі Шмоэль Якаў Рабіновіч (1857-1921), адзін з лідараў сіяністцкага руху, дэлегат першага сіяністцкага кангрэса ў Базелі (1898 г.). У сваіх працах Ш. Рабіновіч палымяна заклікаў яўрэяў каланізаваць землі Палестыны з мэтай стварэння ўласнай дзяржавы. Дзякуючы яго працы Сапоцкін пераўтварыўся ў адзін з важных цэнтраў сіяністцкага руху.

Падзеі Другой сусветнай вайны сталі самай вялікай трагедыяй у жыцці яўрэяў Сапоцкіна. Ужо ў першыя дні свайго гаспадарання ў чэрвені 1941 г. нацысты расстралялі сапоцкінскага равіна і некалькіх іншых местачкоўцаў, абвінаваціўшы іх у супрацоўніцтве з савецкай уладай. Восенню 1941 г. яўрэі Сапоцкіна былі пераселены ў Тэалін, а летам 1942 г. для сапоцкінскага гета было адведзена некалькі будынкаў на вуліцы Асочніцкай. Дзень 1 лістапада 1942 г. стаў апошнім днём больш чым двухсотгадовай гісторыі яўрэйскай абшчыны Сапоцкіна. Усе яўрэі мястэчка былі пешшу пераганныя ў лагер у Калбасіно, адкуль у студзені 1943 г. іх вывезлі ў лагер смерці Аўшвіц.

Да 1959 г. Сапоцкін быў цэнтрам Сапоцкінскага раёна Гродзенскай вобласці. З 1959 г. і да сённяшняга дня ён уваходзіць у склад Гродзенскага раёна.

*Дадатак*

**Інвентар мястэчка Сапоцкін 1704 г.**

*Паводле інвентара мястэчка, складзенага ў 1704 годзе, у ім было 2 вуліцы (Аўгустоўская і Віленская) і Рынак. У мястэчку было больш сямідзесяці гаспадарак (з іх каля пятнаццаці яўрэйскіх), знаходзіўся абнесены парканам двор гаспадара, на Рынку стаяў вялікі арэндны будынак з двума броварамі ў ім. Да местачковай гаспадаркі адносіўся таксама млын на рацэ Свянціцы ў Пясчанцы.*

*Мяшчане і яўрэі Сапоцкіна плацілі М. Ю. Чыжу 827 тынфаў і 6 грошаў чыншу і падарожчыны, арганізоўвалі дзённую і начную варту ў мястэчку і адбывалі на карысць гаспадара 12 дзён талокаў у год, якія, як правіла, праходзілі падчас уборкі ўраджаю. 1000 злотых М. Ю Чыж атрымоўваў ад асобных местачкоўцаў за права вырабу гарэлкі і піва, чатыры злотых сапоцкінцы штогод плацілі касцёлу ў Гожы, да парафіі якога тады адносіліся ўсе рыма-каталікі Сапоцкіна.*

*Аналізуючы імёны жыхароў-хрысціян Сапоцкіна, лёгка можна прыйсці да высновы, што большая частка іх належала да ўніяцтва, і, адпаведна, продкі іх да канца XVI ст. былі праваслаўнымі. Гэта імёны Якаў, Сямён, Пракоп, Іван, Даніла, Лаўрын, Максім. Сустракаюцца таксама імёны ўласцівыя для рыма-каталікоў — Самуэль, Ян, а таксама імёны ўласцівыя і для рыма-каталікоў, і для ўніятаў — Андрэй, Мікалай, Стэфан.*

*Цікавай з'яўляецца інфармацыя і пра сапоцкінскіх яўрэяў, якія, у адрозненні ад мяшчан, плацілі падаткі толькі за дамы і пляцы ў мястэчку, не арандуючы іншых зямель. Жыццё яўрэйскага насельніцтва было, несумненна, звязанае са сферай гандлю і арэнды. Многія сапоцкінскія яўрэі мелі досыць характэрныя прозвішчы, суадносныя з апелятыўнай лексікай: Чарток, Бязносік, Вясло. Адзін з яўрэяў, Абрам, меў увогуле рэдкае прозвішча — Свінюк.*

*Як вынікае з інвентара, адзінай культавай пабудовай у мястэчку была ўніяцкая царква, што сведчыць пра беларускі характар мясцовага славянскага насельніцтва. Дарэчы, летувіскі элемент у антрапонімах тагачаснага мястэчка амаль ніяк не выяўляецца. Гэтая інфармацыя з інвентара Сапоцкіна 1704 г. выглядае вельмі актуальна, асабліва ва ўмовах, калі падаўляючая большасць жыхароў мястэчка сёння адносіць сябе да ліку палякаў.*

*1704 г. лістапада 11. — Інвентар прыналежнага віленскаму падкаморычу Юзафу Мінтаўту Чыжу і яго жонцы Кацярыне Пашкевічавай мястэчка Сапоцкін, застаўленага за 13 тысячаў злотых на тры гады Крыштапу Віктарыяну Юндзілу, гарадзенскаму земскаму суддзі, і яго жонцы Соф'і Крысціне Стрыенскай.*

Інвентар захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі, адзінка захоўвання 15112/26. Дакумент падрыхтаваны да друку з захаваннем асноўных адметнасцей рукапісу. Асобныя скарачэнні раскрываліся. Знакі прыпынку выстаўленыя па сэнсу. Літары, якія напісаны над радком, вылучаны курсівам.

// [арк. 1]

INWENTARZ miasteczka Sopockin Jm pana Jozepha Mintowta Czyża podkomorzyca wilenskie° y samey Jey msci paniey Katharzyny Pieszkiewiczowny Jozephowey Mintowtowey podkomorzycowey wilenskiey spisany w roku tysiączny*m* siedmsetnym czwarty*m* Jmsci panu Krzysztophowi Wiktoryanowi Jundziłowi sędziemu ziemskiemu Grodzie*n*skiemu tylko względe*m* starszenstwa małze*n*skiego a samey Jey msci paniey Zophy Krystynie na Stryinie Stryie*n*skiey Krzysztophowey Wiktoryanowey Jundziłowey sędziney ziemskiey Grodzienskiey iako samey aktorce za summę trzynastu tysięcy talarami lub tymphami rachuiąc kazdy talar bity albo tymphow szesc po złotych szesciu groszy osmnastu prawem zastawny*m* na lat trzy po sobie immediate idących od roku wysz pisanego ode dnia S° Marcina s(wię)ta rzymskie° podług nowe° kalendarza az do roku tysiąc sied*m*setnego siodmego do takowegoz dnia y swięta iako w sobie fusius prawo zastawne opiewa puszczony y podany.

Naprzod budynek dworny

Wiezdzaiąc do wrot — wrota na wierzchu bez nakrycia, same z tarcic cwiekami zelaznemi pobite na biegunach w wierzchu zelaznych z zasowką drewnianą, od tych wrot po prawey ręce idąc mieszczanin zyie w budy*n*ku swoim własnym Hrehory Fiłonczuk na czy*n*szu, daley postępuiąc swiren mieszczanina Andrusia. Po teyze ręce budynek kuchenny do ktorego wchodząc drzwi bez iedney deski z zawiasami zelaznemi, w nim kuchnia z drzewa robiona. Izba sama kuchenna do niey drzwi zepsowane z zawiasą iedną zelazną, we srzodku okien dwie szklanych w drzewo oprawnych nie całych potłuczonych, w iedny*m* oknie połowicy nie masz, trzecie okno mnieysze deską zasunione, w niey piec z kafel prostych, komin y piec do chleba pieczenia. Sa*m* budynek dranicami kryty, wszytek potrzebuiący restauraty. Daley postępuiąc forta na zawiasach zelaznych dranicami w wierzchu kryta, idąc tedy do samego rumu ganek przed budy*n*kiem w nim ław trzy, wchodząc do sieni drzwi na zawiasach zelaznych od ganku z podworza u nich zaszczepka zelazna z proboiami, a zewnątrz zasowka drewniana, okno iedne szklane w drzewo oprawne bez iedney kwatery restauraty potrzebuiące. W tych sieniach z dranic przegroda beze drzwi. Wszedszy w sieni po prawey ręce izba przeciwna biała, w niey okien cztery w drzewo oprawne kwater dwoch nie maiących, a inne kwatery poprawy potrzebuiące potłuczone, w niey ław dwie, stoł ieden y stolik drugi mały, piec cały zelazny y komin, drzwi do niey na zawiasach zelaznych z zaszczepką zewnątrz zelazną z klamką. Z tey izby komora, do niey drzwi // [арк. 1 адв. ] do niey drzwi na zawiasach bez klamki, w niey okien dwie szklanych w drzewo oprawnych, iedno całe, a w dwugim połowicy okna nie masz. W tey komorze piec biały z kafel prostych, z tey komory drzwi do sieni na zawiasach zelaznych z zaszczepkami ze srzodku y na dwor po lewey ręce izba biała, do niey drzwi na zawiasach zelaznych z klamką zelazną y zewnątrz z zaszczepką, w niey okien cztery dwoistych w drzewo oprawnych, ławy z lisztwami, stoł ieden, zedelkow poiedynkowych[13], zedlow duzych do siedzenia dwa, piec biały z kafel prostych y komin. Z tey izby komora, do niey drzwi na zawiasach zelaznych z zaszczepką zelazną bez proboia zewnątrz z zaszczepką y klamką, w niey okno iedno w drzewo oprawne, drzwi tylne z zaszczepką zelazną zewnątrz, same na zawiasach zelaznych. Z tey komory drzwi do pokoiu na zawiasach zelaznych z wnętrzny*m* zamkiem, w nim okien dwie w ołow oprawnych, okiennic dwie na biegunach, w tym pokoiku stolik mały. Sam budynek wszytek dranicami kryty od wrot wieznych idąc po lewey ręce swironki y gumienka mieszczanskie. Daley postępuiąc staynia, do niey wrota z tarcic gozdziami drewnianemi pobite z zaszczepkami zelaznemi, z jaslami na pomoscie, sa*m* wierzch wpuł dranicami, wpuł słomą kryty. Obok stayni wo-

[13] Колькі — не пазначана.

zownia, do niey drzwi z dranic z zaszczepkami zelaznemi. Idąc w koło dworu tylnie wrota z dranic prostych robione, przy nich swiren, w nim drzwi na biegunach drewnianych z zamkiem wnętrznym y z zaszczekami zelaznemi, wierzch dranicami kryty, wewnątrz zasieki porobione tandem postępuiąc cirku*m* cirka gumienka mieszczanskie, a gdzie gumienek mieyskich nie masz, tam dwor parkane*m* wkoło ogrodzony.

Arenda

W samym rynku na placu stoiący budynek arendowny z dwoma browarami w ktory*m* mieszkaiący arendarz ieden ma browar na swoią potrzebę arendowną, a drugi zostaiący w disposity jego na potrzebę mieszczan dla robienia piw. W ktory*m* to browarze powinni mieszczanie piwa robic, a nie gdzie indziey, a iesliby mieli u siebie maiących w swoich browarach robic, tedy nie powinni az za dozwolenie*m* tego arendrza, ktory to budynek in toto arendowny zostaię do disposity dworu. Ktora arenda ma się zaczynac od S° Marcina s(wię)ta rzymskie° według nowego kalendarza. Od arendarza należy na rok ieden arendy tysiąc złotych moneta currenti, do ktorey to arendy nalezy w całym miasteczku kapszczyzna od waru piwa po złotych dwa, browarne y kotłowe, targowe, łopatkowe. A ta arenda do wolney disposity nalezec będzie Jch mci pp*w* dzierzawcow.

Młyn

Na rzece Swięcicy w Pieszczanach o jedny*m* kole z zelaze*m* wszelakim do koła nalezyty*m* do arendy należący, restauracy potrzebuiący. Do ktorego naprawy iako to do zwozenia drzewa y zasypania grobli powinni mieszczanie sopockinscy kozdy z domu swe° robotnika dawac, a co by się kolwiek z zelaza miało zepsowac, poprawka nalezy do arendarza.

// [арк. 2]

Czynsze miasteczka Sopockin

Ulica Wilenska

| | | |
|---|---|---|
| ........................................................................ | Tynfy ........... | grosze |
| Zyd Icko z placow trzech od Swięcicy ma płacic czynszu... | Tyn ........... | 7 = 15 |
| Item z trzecin dwoch od Gury ma płacic ...................... | T ........... | 1 = 10 |
| Item z puł włoki pola y czwirci .................................... | T .......... | 11 = 10 |
| Podrozne° ..................................................................... | T .................... | 2 |
| Namiesnikowi .............................................................. | T .................... | 4 |
| Zydowka Maierkowa z puł placa od Swięcicy. ................ | T ......... | 1 . ..7.$^1/_2$ |
| Podroznego .............................................................. | T .................. | 1 |
| Namiesnikowi .......................................................... | T .................. | 1 |

| | | |
|---|---|---|
| Nieczaiowa wdowa z szesciny pola | T | 2 = 15 |
| Z dwuch trzecin placu od Swięcicy | T | 1 = 10 |
| Podroznego | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 1 |
| Woytek Sklipowicz z trzeciny placa od Swięcicy | gr | 25 |
| Tenze z czwirci pola | T | 3 = 20 |
| Mikołay Hupik z szesciny pola | T | 2 = 15 |
| Tenze z poł morga od Osoki | T | 1 = 15 |
| Tenze z trzeciny placu od Swięcicy | gr | = 25 |
| Podroznego | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Jan Lucznik z dwuch trzecin placu od Swięcicy | T | 1 = 20 |
| Tenze z puł włoki pola | T | 7 = 15 |
| Tenze podroznego | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Hryhory Sklip z pułtora placa od Swięcicy | T | 4.....15 |
| Tenze z puł włoki pola | T | 7.....15 |
| Tenze z placu od Gury | T | 2 |
| Tenze z morgow czterech od Swiacka | T | 16 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 4 |
| Stephan y Jasko Sklipowicze z puł włoki pola | T | 7.....15 |
| Ciz z dwuch trzecin placu od Swięcicy | T | 1.....20 |
| Item z trzeciny placu od cerkwi | gr | = 20 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Michał Fiłonczyk z trzeciny pola | T | 5 |
| Tenze z puł placu od Swięcicy | T | 1 = $7.\frac{1}{2}$ |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Bazyli Rusinowicz z trzeciny pola | T | 5 |
| Tenze z placu y czwierci od Swięcicy | T | 3 = $7.\frac{1}{2}$ |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 3 |

Latus tacit tymphow 136 // 12.1/2

// [арк. 2 адв.]

| | | |
|---|---|---|
| | Tynfy | grosze |
| Andrzey Rusinowicz z włoki pola | T | 15 |
| Tenze z morgu iedne° y puł od Swiacka | T | 6 |
| Tenze z trzecin dwuch placu od Święcicy | T | 1 = 20 |
| Podrozne° tymphow | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 4 |
| Maxim Lewicki z włoki pola | T | 15 |
| Tenze z szesciny pola | T | 2 = 15 |
| Tenze z puł morga od Osoki | T | 1 = 15 |
| Tenze z dwuch placow od Święcicy | T | 5 |
| Tenze z placu od cerkwi y czwierci | T | 2 = 15 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 4 |
| Jozeph Lewicki z puł placu od Święcicy | T | 1 = 7.1/2 |
| Namiesnikowi | T | = 15 |
| Samuel Kilimowicz z puł placu od Święcicy | T | 1 = 7.1/2 |
| z puł włoki tenze pola | T | 7= 15 |
| Podroznego | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Hrehory Klimowicz z czwierci pola | T | 3 = 20 |
| Tenze z dwuch trzecin placu od Święcicy | T | 1 = 20 |
| Tenze z trzeciny placu od cerkwi | gr | = 20 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Lawry*n* Kilimowicz z trzeciny pola | T | 5 |
| Tenze z czwirci morgu od Swiacka | T | 1 |
| Tenze z czwirci placa od Święcicy | gr | = 20 |
| Tenze z czwirci placa od Gury | gr | = 15 |
| Podroznego | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Daniło Mazurczyk z puł placa od Święcicy | T | 1 = 7 |
| Tenze z trzech placow od cerkwi | T | 6 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |

Maciey Matukiewicz z puł włoki pola .............................. T ........... 7 = 15
Tenze z puł morga od Osoki .......................................... T ........... 1 = 15
Tenze z puł placa od Swięcicy ..................................... T .......... 1 = 7.$^{1}/_{2}$
Tenze z puł placa od cerkwi .......................................... T .................... 1
Podroznego ................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 3

Stephan Kuzmicz z czwirci y osminy pola ........................ T .......... 5=22.$^{1}/_{2}$
Tenze z puł placa od Swięcicy ..................................... T .......... 1 = 7.$^{1}/_{2}$
Tenze z trzeciny placa od cerkwi................................ gr .............. = 20
Podrozne° tymphow ..................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Facit latus tymphow 135

// [арк. 3]

................................................................................. Tynfy ........... grosze

Prokop Łobocki z trzeciny pola ....................................... T .................... 5
Tenze z morgu od Osoki ............................................... T .................... 3
Z trzeciny placu od Swięcicy ...................................... gr .............. = 25
Podroznego ................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Bazyli Łobocki dwie trzeciny pola .................................. T .................. 10
Tenze z placu od cerkwi ................................................ T .................... 2
Tenze z dwu trzecin placu od Swięcicy........................ T ........... 1 = 20
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 3

Siemion Audziey z puł włoki pola .................................... T ........... 7 = 15
Tenze z puł morga od Osoki .......................................... T ........... 1.....15
Tenze z puł placa od Gury ............................................ T .................... 1
Podroznego ................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Jan Audziey z trzeciny pola y czwierci ............................. T ........... 8 = 20
Tenze z pułtora placa od Swięcicy ............................... T .................... 4
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 3

Iwan Łobocki z trzeciny y osminy pola ............................ T .......... 6=27.$^{1}/_{2}$
Tenze z puł placa od Swięcicy ..................................... T .......... 1 = 7.$^{1}/_{2}$
Tenze z placu od cerkwi ................................................ T .................... 2

Tenze z puł morga sianozętne° od Osoki ...................... T ........... 1 = 15
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 3

Marcin Katok z trzeciny pola. ......................................... T. .................... 5
Tenze z morgu y czwerci ° od Osoki ............................ T ........... 3 = 23
Tenze z placu od Swięcicy y puł ................................. T .................... 4
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 2

Konstanty Brysaczyk z puł włoki pola ............................. T ........... 7.....15
Tenze czwirci morga od Osoki ................................... gr .................. 23
Tenze z puł placu i trzeciny od cerkwi ......................... T ........... 1 = 20
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 2

Michał Sucko z czwirci pola ............................................ T ........... 3 = 20
Tenze z puł morga od Osoki ....................................... T ........... 1 = 15
Tenze z placu y czwirci od cerkwi ............................... T ........... 2 = 15
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 2

Jan Kuzmicz z dwuch trzecin placu od cerkwi ................ T ........... 1 = 10
Tenze z puł morga od Swiacka .................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 1

Jakow Jakowczyk z trzeciny pola .................................... T .................... 5
Tenze z puł placu y czwirci .......................................... T ........... 1 = 15
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 2

Latus facit tymphow 126 gr 1

// [арк. 3 адв.]

.................................................................... Tynfy ........... grosze
Maxim Brysaczyk z trzeciny pola y czwirci ...................... T ........... 8.....20
Tenze z placu y trzeciny od cerkwi .............................. T ........... 2.....20
Tenze z puł morga od Osoki. ........................................ T ........... 1 = 15
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 3

Leon Rucki z trzeciny pola ............................................... T .................... 5
Tenze z dwuch trzecin placu od cerkwi ......................... T ........... 1 = 10

| | | |
|---|---|---|
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Hrehory Fiłonczyk z puł włoki od pola | T | 7 = 15 |
| Tenze z puł placu od cerkwi y trzeciny | T | 1 = 10 |
| Tenze z puł placa od Swięcicy | T | 1....7.$^{1}/_{2}$ |
| Tenze z z puł morga od Osoki | T | 1......15 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Mikołay Bizier z czwirci pola | T | 3 = 20 |
| Tenze z puł placu od cerkwi y trzeciny | gr | = 20 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Stephan Harbaciuk z trzeciny pola | T | 5 |
| Tenze z morgu od Swiacka | T | 4 |
| Tenze z placu od cerkwi | T | 2 |
| Tenze z czwirci placu od ulicy Augusztowskiey | gr | = 20 |
| Tenze z czwirci morga od Osoki | gr | = 20 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi. | T | 3 |
| Jędrzey Obuchowski z trzeciny placu od cerkwi | gr | = 20 |
| Dziemian Czeszeyko z trzeciny pola | T | 5 |
| Tenze z puł placa od Swięcicy. | T | 1 = 7.$^{1}/_{2}$ |
| Tenze z puł placa y czwirci od cerkwi | T | 1 = 15 |
| Podrozne° | T | 2 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Zyd Leyzar z puł placu y domu swe° | T | 3 |
| Namiesnikowi | T | 1 |
| Zyd Smos Beznosik z puł placu y domu swe° | T | 3 |
| Namiesnikowi | T | 1 |

RYNEK

| | | |
|---|---|---|
| Zydowka Jankielowa z placu y domu swe° | T | 4 |
| Namiesnikowi | T | 2 |
| Zyd Azik Czortek z placu y domu swe° | T | 3 |
| Namiesnikowi | T | 2 |

Jan Czeszeyko z szesciny pola .......................................... T ........... 3.....15
Tenze z puł placa rynkowe° .......................................... T .................... 1
Tenze z placu od Swięcicy .......................................... T ........... 2.....15
Podroznego ................................................................ T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Latus facit tymph(ow) 110 gr 25

// [арк. 4]

................................................................................ Tynfy ........... grosze
Stephan Hryhorowicz z dwoch trzecin pola ...................... T .................. 10
Tenze z placu od cerkwi ............................................... T .................... 2
Tenze z puł placa rynkowe° .......................................... T .................... 1
Podroznego tymphow ................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 4

Zyd Szymcha z placu rynkowe° y domu .......................... T .................... 3
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 1

NB — Samuel Haraburda z puł placa[14] rynkowe°. ........... T .................... 1
Tenze z placu od Gury .................................................. T .................... 2
Podrozne° .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Michal Gaygel z trzeciny pola .......................................... T .................... 5
Tenze z puł placa rynkowe° .......................................... T .................... 1
Tenze z trzeciny placa ulicy Augusztowskiey ............. gr .................. 20
Podrozne° .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

Mikołay Zabłocki z trzeciny pola ..................................... T .................... 5
Tenze z puł placa rynkowego. ....................................... T .................... 1
Tenze z czwirci pola ..................................................... T ........... 3.....20
Podroznego tymphow ................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 3

Zyd Abram Swiniuk z puł placa rynkowe° y z domu ........ T .................... 3
Tenze z puł placu rynkowe° ......................................... T .................... 1
Namiesnikowi ............................................................. T .................... 2

[14] Падкрэслена ў тэксце.

Zyd Abus syn arendarza stare° z puł placa y domu ........... T ..................... 3
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 1

Zyd Icko Wiesło z puł placu rynkowe° y z domu ............. T ..................... 3
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 1

Zyd Szmerło Zelmanowicz z puł placa rynkowe° y z domu T ..................... 3
Podroznego ....................................................................... T ..................... 2

Wasil Sucko z pułtora placa rynkowe° ............................. T ..................... 3
Tenze z czwirci pola ...................................................... T ........... 3 = 20
Podroznego tymphow .................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 1

Alexa*n*der Mikłaszewicz z szesciny pola .......................... T ........... 2.....15
Tenze z puł placa rynkowego ........................................ T ..................... 1
Podrozne° tymphow ..................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 2

Zyd Szmoyło Abramowicz Czortok z placu rynkowe° y z domu..T ................. 4
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 2

NB — Barbara Haraburdzina wdowa[15] z trzeciny pola ..... T ..................... 5
Taz z puł placu rynkowe° ............................................. T ..................... 1
Podrozne° ...................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 2

Latus facit tymphow 106 gr 15

// [арк. 4 адв.]

.................................................................................. Tynfy ............ grosze
Jakub Szczebiot z czwirci pola .......................................... T ........... 3.....20
Tenze z puł placa rynkowe° .......................................... T ..................... 1
Podrozne° ...................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 2

Dziemianowa Szymanowiczowa z szesciny pola ............. T ........... 2 = 15
Taz sama z puł morga od Swiacka ................................. T ..................... 2
Taz z puł placa rynkowe° ............................................. T ..................... 1
Podrozne° ...................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T ..................... 1

[15] Падкрэслена ў тэксце.

Jan Kaklin z trzeciny pola ................................................ T .................... 5
Tenze pułtora placu rynkowe° y trzeciny ..................... T ........... 3 = 20
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T .................... 2

Sipaczewska wdowa z puł placa rynkowe° ...................... T .................... 1

Maximczuk Bielenica z puł placa rynkowe° .................... T .................... 1

Marcin Wołk z placu rynkowe° ....................................... T .................... 2
Tenze z puł włoki pola .................................................. T ........... 7.....15
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T .................... 2

Zyd Czortek Teodor z puł włoki pola ............................... T ........... 7 = 15
Z placu rynkowe° ......................................................... T .................... 2
Z trzech czwirci placu od Swięcicy rzeki ..................... T ........... 1.....15
Podroznego .................................................................. T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T .................... 2

ULICA AUGUSZTOWSKA

Uliana Kupraszowa od Gury z czwirci placa .................. gr .................. 15
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T .................... 1

Alexa*n*drowa Suckowa z puł placa w ulicy Augusztowskiey .. T .................... 1
Podrozne° .................................................................... T .................... 2

Prokop Pusiuk z puł placa w ulicy Augusztowskiey ......... T .................... 1
Tenze z szesciny pola ................................................... T ........... 2.....15
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi. .............................................................. T .................... 1

Stephan Sipaczyk z puł placa od Gury ............................. T .................... 1
Z puł morga od Swiacka tenze ..................................... T .................... 2
Tenze z puł placa w ulicy Augusztowskiey .................. T .................... 1
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................... T .................... 1

Marcin Kuzmicz z cwierci placa od cerkwi .................... gr .................. 15

Hrehory Romaszewicz z trzeciny pola .............................. T ..................... 5
Z placu i szesciny od Swięcicy tenze ............................ T ............. 3 = 5
Z puł placu od cerkwi tenze .......................................... T ..................... 1
Namiesnikowi .............................................................. T ........... 1 = 15

Latus facit tymph*ow* 92 gr 25

[арк. 5]

............................................................................. Tynfy ........... grosze

Piotr Sipaczyk z puł placu ulicy Augusztowskiey ............. T ..................... 1
Z szesciny pola tenze .................................................... T ................ 2 15
Tenze z puł morga od Swiacka tenze ............................. T ..................... 2
Podrozne° .................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 2

Cimochowa Kurkowa z puł placu w ulicy Augusztowskiey . T ..................... 1
Taz z puł morga od Swiacka .......................................... T ..................... 2
Podrozne° .................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 1

Alexander Szczebiot z puł placu od Swięcicy ................... T .......... 1 = 7.$^{1}/_{2}$
Z czwirci morga od Osoki tenze .................................. gr ................... 25
Tenze z puł placa rynkowe° .......................................... T. ..................... 1
Tenze z czwirci pola ...................................................... T ........... 3 = 20
Podroznego ................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 3

Stephan Szczebiott z trzeciny pola ................................... T ..................... 5
Tenze z placu y z czwierci od Swięcicy ........................ T ............. 3 = 5
Podrozne° .................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 3

Fiedor Kusznierczyk z czwirci pola ................................. T ..................... 3
Tenze z trzeciny placu od Swięcicy ............................. gr ................... 25
Podroznego ................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 1

Stephan Romanowski z puł włoki pola ............................. T ............ 7.....15
Tenze z puł morgu od Osoki tenze ............................... T. ............ 1.....15
Tenze z trzech czwirci placu od Swięcicy ..................... T ............ 1.....25
Tenze z placu od ulicy Augusztowskiey ........................ T ..................... 1
Podrozne° .................................................................... T ..................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T ..................... 4

Iwan Bienaszewicz z szesciny pola .................................. T ........... 2.....15
Tenze z czwirci placu od Święcicy ............................... T .......... 1..... 25
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi ............................................................. T ........... 1.....15

Fiedor Woycieszyk z puł włoki pola ................................ T ........... 7.....15
Tenze z dwuch trzecin placu od Święcicy .................... T ........... 1.....20
Tenze z puł placu od Gury ............................................ T .................... 1
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 3

Jan Kodzik z trzeciny pola ............................................... T .................... 5
Tenze z trzeciny placu od Święcicy............................. gr .............. = 25
Tenze z czwirci placu od Gury .................................... gr .................. 25
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 2

Latus facit tymphow 98 gr 12 1/2

// [5 адв.]

...................................................................................... Tynfy .......... grosze
Kostus Kusznierczyk z puł włoki pola ............................. T ........... 7.....15
Tenze z trzech trzecin placu od rzeki Święcicy ............ T ........... 2.....15
Tenze z placu od Święcicy Puciatowskie° ................... T ........... 2.....15
Podrozne° .................................................................... T .................... 2
Namiesnikowi .............................................................. T .................... 3

Jm xdz praezbyter cerkwi Sopockinskiey z czwirci polaT .......... 3 = 20

Do tegoz inwentarza łączą się morgi y zascianki, ktore nalezą do dyspozity dworney tak y place w miescie będące.

Pierwszy plac od cerkwi w tyle dworu.
Puł placa od Święcicy przy ulicy do wygonu.
Puł placa od cerkwi Kalinowskie°.
Morg od Swiacka Kozłow ieden.
Morg Andrusiewiczow drugi.
Zascianek na uroczyszczu Kłakowszczyzna.
Morg Kuleszewskiego oddany Maximowi Lewickiemu z ktorego
w przyszły*m* roku powinien zapłacic tymphow ........... T ................ =8.

Latus facit tymphow 21 gr 5[16].

[16] Падкрэслена ў тэксце.

Summariusz latusow wszytkich in computis computandis uczyni tymphow 827 gr 6[17].
Arendy złotych 1000[18].
Dziesięciny pzney do kosciola Hozenskie° co rok powinno dawac po złotych cztyry z tey summy.

Powinnosci tego miasteczka

Z kazdego domu straz dzienna y nocna powinna bydz koleyno do dworu będącego w miasteczku, a nie na inne mieysce, tłok mieszczanie powinni odprawic dwanascie w roboczy czas, to jest: z sierzpem, grabiami y kosą, a po odprawieniu pomienionych tłok nie powinni do zadnych robot bydz pociągani. Po zapłaceniu jednak dwoch tymphow // [арк. 6] tymphow podroznego kazdy z dymu, nie powinni mieszczanie zadnych drog dalekich odprawowac. Czynsze zas y pndze podrozne powinni co rok mieszczanie y zydzi wnosic na S(wię)ty Marcin cu*m* executione na uporczywszych. Do ktorego to inwentarza Jm p*u* Krzysztophowi Wiktoryanowi Jundziłowi sędziemu ziemskiemu Grodzienskiemu y samey Jey paniey Zophyey Krystynie na Stryiney Stryienskiey Krzysztophowey Wiktoryanowey Jundziłowey sędziney ziemskiey Grodzienskiey iako samey aktorce małzonkom naszey maiętnosci Sopockin w zastaw puszczoney danego dla lepszey wagi y pewnosci przy podpisach rąk Jch mw pieczętarzow ustnie y oczewisto od nas uproszonych rękami naszemi podpisuięmy się.

Dan w Sopockinie.

Roku Panskie° tysiąc siedemsetnego czwarte° msca nowembra jedynastego dnia.

Jozef Mintoft Czyz podkomorzyc woiewodstwa Wilenskiego starosta [...]

Ustnie y oczewisto proszony pieczętarz od Jm pana Jozefa Mintowta Czyza podkomorzyca woiewodstwa Wilenskie° y samey Jey mosci dany wielmoznemu Jm panu Wiktoryanowi Krzysztophowi Jundziłłowi sędziemu ziemskiemu powiatu Grodzienskiego według starszenstwa y samey Jey mosci paniey Zofy Krystynie Strynskiey Jundziłłowey sędziney ziemskiey ptu Grodzienskiego do te° inwentarza podpisuię Alexander Kazimierz Wołłowicz stolnik Grodzienskiey.

**Wital Hałubowicz** — doktor nauk historycznych. Zajmuje się historią Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVII-XVIII w.

**Andrej Waszkiewicz** — starszy pracownik naukowy Państwowego Muzeum Historyczno-Archeologicznego w Grodnie. Zajmuje się historią ruchu narodowo-wyzwoleńczego w Zachodniej Białorusi, stosunkami narodowo-religijnymi na pograniczu białorusko-polsko-litewskim w XVI — pierwszej połowie XX w.

[17] Падкрэслена ў тэксце.
[18] Падкрэслена ў тэксце.